# Гіём Апалінэр

## Выбраныя вершы

*Пераклад з французскай*

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2016

## *Бестыярый, альбо Арфееў картэж*

*(Le Bestiaire ou Cortège d'Orphée)*

*Элеміру Буржу*

### *Арфей*

Глядзіце, як шляхетна і выразна
Малюнкі ўсё тлумачаць падрабязна:
Здаецца, што святло гаворыць урачыста
Вучонай моваю Гермеса Трысмегіста.

### *Чарапаха*

Ляціць з фракійскага выраю
Мой спеў, святло несучы,
Бо панцыр зрабіўся ліраю,
І ўсе звяры – слухачы!

### *Конь*

Трымаеш лейцамі ўсё, што наяве сніцца,
І робяцца страфой вазніца й калясніца,
Рух незавершаны і космас вершаваны –
Крылаты дыямент, табой адшліфаваны.

### *Тыбецкая каза*

Тыбету з яго козамі
І золату руна
Не параўнацца з косамі
Той, што ў мяне адна.

### *Змяя*

Змеі – увасобленая злосць,
згубіць прыгажосць і маладосць,
Эўрыдыку прынясе ў ахвяру,
Еву, Клеапатру... Вам не досць?
Ведаю і парыжанак пару.

### *Кот*

Я запрашу ў сваю кватэру
Каханую – якой паверу,
Като́ – для кніжных вечароў,
І вас – на шумную вячэру,
Бо жыць не ўмею без сяброў!

### *Трус*

Не будзь як палахлівы трус,
Калі Амур дае занятак.
А зробіць Муза ператрус –
Наплодзіш вершаў-трусянятак.

### *Зайка*

А вунь звяруга вушастая,
Што пыску з куста высоўвае:
Па месцах дзівосных шастае
Дзівоснай парой марцоваю.

### *Леў*

Абражаны й знявечаны,
Як зрынутыя прынцы,
Жыў леў сярод Нямеччыны –
У гамбургскім звярынцы.

### *Вярблюд*

Дон Пэдра пакінуў свой родны парог,
Дон Пэдра вярблюдаў купіў чатырох,
Дон Пэдра праехаў на іх сто дарог.
А я мог бы і дзвесце, і Пэдра падвезці –
Каб вярблюдаў я меў чатырох.

### *Мыш*

О, мышы часу, вось і восень!
Я з'едзены да палавіны.
Дажыў да лічбы дваццаць восем –
Прычым не так, як быў павінны.

### *Слон*

Біўні ў роце – адмысловы
Схоў багацця й прыгажосці.
А ў паэта – словы, словы...
Вершы са слановай косці.

### *Арфей*

Жамярыцы і мікробы,
Крылцы, вочкі і хвасты,
Блохі найвышэйшай пробы
Маюць болей пекнаты
Ад сямі дзівосаў свету
Й нават гэтага куплету!

### *Вусень*

Паэту вусень – брат:
Каб нітку верша прасці,
Працуй як шаўкапрад,
Бо ў шоўку – мятлік шчасця!

### *Муха*

Не ўпаўшы ў зімовую спячку,
Пра снег нам спявае элегіі,
Якім навучылі сваячку
Бялюткія мухі з Нарвегіі.

### *Блыха*

Блыха – як сябар, як лю́бая –
П’е кроў з нас і згубу нясе.
Ды ўдзячны за кроў і згубу я
Каханай, сябру, блысе.

### *Саранча*

Еў акрыдаў (саранчу)
Ян Прадвеснік з дзікім мёдам.
Так і я служыць хачу
Толькі боскім асалодам.

### *Арфей*

Хай жа сэрца прынадаю ў неба ўпадзе!
І ў салёнай ці прэснай нябеснай вадзе,
Колькі я ні злавіў бы, у радасці й скрусе,
Толькі Ты – мая рыба й рыбак мой, ІСУСЕ!

### *Дэльфін*

Дэльфін гарэзіць паміж хваль,
Ды хвалі – горкія, на жаль.
Вось так і я глытаю горыч:
Каханне й боль заўсёды поруч.

## *Каракацiца*

Я, шматрукая пачвара,
Толькі пырскаю чарніла,
І майму каханню – кара:
Каціцца ў нябыт, што міла!

## *Медуза*

Цяжка быць медузаю –
Шторм катуе й тузае.
Ды затое шлюзы я
Адчыняю з музаю.

## *Рак*

Маім сумневам-небаракам
Няма дарогі ў райскі сад,
Калі паўзеш у неба ракам,
Бо крок наперад, два назад.

## *Карп*

Карп, што схаваўся ў ціхі стаў,
Так доўга жыў, што сумным стаў,
Бо й смерць яго забыла:
Самотна жыць – магіла.

### *Арфей*

Зімародак і Эрот
І Сірэн салодкі гнеў...
Губіць чалавечы род
Іх нечалавечы спеў.
Слухаць іх я вам не раю.
Слухайце анёлаў з Раю.

### *Сірэны*

Загадку горкую, паэце, растлумач:
Што значыць спеў Сірэн, пра што іх вечны плач?
Яны пяюць мой лёс, і ў кожным галашэнні –
Разбіты карабель, гадоў маіх крушэнне.

### *Голуб*

Найцудоўнейшы з галубоў,
Што Марыі прынёс любоў,
Я прашу, памажы мне згары
Споўніць мары з маёй Мары!

### *Паўлін*

Сваё хараство вам наўпрост
Пакажа паўлін-выхваляка –
І вабіць распушчаны хвост,
І свеціцца голая срака.

### *Пугач*

У сэрцы жыве пугач:
Каго палю́біць, пужае.
Усё, што нажыў, – боль і плач,
А радасць – заўжды чужая.

### *Ібіс*

І толькі ібіс на лаціне
Вітацьме здань маю, калі
Сыду ў цямрэчу, у глыбі́ні
Пяскоў егіпецкай зямлі.

### *Вол*

Анёл святога Лукі,
Малітваю райскі вол
Сустрэне нас, сябрукі...
Як Госпад нам дасць дазвол.

*Пераклаў Андрэй Хадановіч*

## *Зона*
*(Zone)*

Як табе свет астабрыдзеў старэчы

Вежа Эйфеля пастушка
масты твае зранку равуць па-авечы

Колькі гадоў ты гібеў экспанатам у Грэцыі й Рыме

Нават аўто выглядаюць занадта старымі
Толькі рэлігія не састарэе ніколі
Простая як самалёты ў ангарах і лётнае поле

Толькі Хрыстовая вера не будзе антыкварыятам
Хто з вас апосталы моды зраўнаецца з Піем Х?
А хто сарамлівым паглядам святло з вокнаў ловіць?
Ты што ў касцёл увайсці пабаяўся на споведзь
Ты каталогі гартаеш цалуеш вачыма афішу
Вось паэзія гэтага ранку а прозу ў газетах напішуць
Усяго за чвэрць франка на здымках вялікія людзі
Дэтэктывы шукаюць матывы працяг хутка будзе

Я з раніцы вуліцу бачыў назвы не памята́ю
Чысцюткая ў сонечным ззянні нібы труба залатая
Банкіры й рабочыя стэнаграфісткі-красуні
шасцёркі й тузы
Праходзяць ёю па буднях на дзень па чатыры разы

Званы звар'яцелыя б'юць па вушах апоўдні
На золку вые сірэна працоўны помні
Рэклама шчытамі й плакатамі выбухае
Абвесткі крычаць са сценаў як папугаі
Як я люблю гэты індустрыяльны стыль
Між авеню дэ Тэрн і Амон-Т'евіль

Вось твая вуліца юная й ты яшчэ ў веку дзіцяці
Табе блакітныя й белыя строі купляе маці
Ты яшчэ хлопчык-званочак
што з сябрам Рэнэ Далізам
Ходзіць у храм не чуўшы слова «матэрыялізм»
А дзявятай у спачывальні ледзьве гарыць газніца
Ты ўцякаеш каб ноч навылёт
у школьнай капліцы маліцца
Дзе ў аметыставай нішы светла як днём
Німб над чалом Ісуса вечным палае агнём
Гэта нам цуд расцвітае дзівоснай лілеяй
Рудавалосай паходняй што й на вятры ацалее
Гэта сын чалавечы слязамі маці паліты
Дуб што нясе на галінах усе людскія малітвы
Гэта моц і гонар па мечы з нявіннасцю па кудзелі
Гэта зорка шасціканцовая Збаўца што дзеля
Нас памірае ў пятніцу і ўваскрасае ў нядзелю
Гэта Ісус што ўзлятае як лётчыкі ўвішныя
І пабівае ў нябёсах рэкорды ўсявышнія

Вока-Айца Зрок-Хрыстос
Новай веры дваццатае вока
Птушкаю стаў век Хрыста і ў нябёсах лунае высока
Д’яблы крычаць з апраметнай у дзёрзкай надзеі
Гэта адзін з эпігонаў Сымона вядомага мага з Юдэі
Можа ў паветры *лунаць* дык запішам нябогу
ў *лунатыкі*
Побач анёлы шліфуюць фігуры нябеснай гімнастыкі
Энох Ілля ды Ікар і яшчэ Апалоній з Тыяны
Служаць эскортам для першага аэраплана
Часам пасунуцца трохі калі святары
Ў сёмае неба прыносяць святыя дары
Калі ж самалёт прызямляецца так і не склаўшы крыл
Мільёнамі ластавак поўніцца небасхіл
Узносяцца сокалы й совы крумкач што нясе журбу
З’яўляюцца з Афрыкі ібіс фламінга і марабу
Птушка Рух апяяны ў паэмах вянец хараства
У кіпцюрах яе чэрап Адама першая галава
Вялізны арол з паднябесся чуваць яго крыкі
А вось і калібры з Амерыкі птах невялікі
Птушка пі-і экзатычная госця з Кітая
Што мае адно крыло і без пары сваёй не ўзлятае
Птушка-ліра і сімвал Духу Святога голуб
Птушка паўлін чый хвост зацьміў і крылы анёла б
Фенікс што адраджаецца толькі згарыць у агні
Полымя потым попел і зноў жыве ў вышыні

І сірэны пакінуўшы гібельныя пралівы
Тут як тут і бруіцца спеў іх прывабны й жахлівы
І голуб і фенікс і Рух і пі-і з Кітая
Кожны з крылатай машынаю пабратацца жадае

Вось ты ў Парыжы адзін абступаюць натоўпамі здані
Побач аўтобусаў статкі імчацца ў мычанні
Горла сціскае тугою хватка яе тугая
Быццам ніхто цябе болей на свеце не пакахае
Некалі ў манастыр людзі ішлі з такім горам
Сёння ж пачнеш маліцца і душыць сорам
Сам з сябе кпіш але ўвага жартуеш з пеклам
Толькі іскры ляцяць па-над лёсам тваім нягеглым
Быццам карціны вісяць у музеі людской лухты
Падыходзіш бліжэй паглядзець а на кожнай ты

Вось ты ў Парыжы наўкола жанчыны
аблiччы ў крыві іх
Гэта было... я хацеў бы забыць...
прыгажосці агонія й вывіх

Маці Божая проста з полымя
ў вочы глядзела мне ў Шартры
І крывёй Найсвяцейшага Сэрца
заліла мяне на Манмартры
Бо я хворы шчаслівыя словы гучаць мне жалобай
Я хварэю каханнем як самай ганебнай хваробай

Гэты вобраз катуе бяссоннем ратуе журбой
Гэты вобраз што знік гэты вобраз што вечна з табой

Ты на Міжземнамор'і
Тут лімоны цвітуць круглы год у любое надвор'е
Вы ўпяцёх сябра з Ніцы мэнтонец і двое яшчэ
З Ла Цюрбі вы на лодцы вяслуеце й сонца пячэ
А ў празрыстых глыбінях між водарасцяў і медуз
Неймаверныя рыбіны й кожная значыць Ісус

Ты спыніўся ў карчме ў маляўнічых ваколіцах Прагі
На стале тваім ружы ты поўны натхнення і прагі
Мусіў нейкую прозу пісаць але з месца не рушыў
Заглядзеўся як жук задрамаў між пялёсткамі ружаў
У саборы Святога Віта ты пазнаў сябе ў вітражах
Ты гатоў быў памерці такі быў смутак і жах
Звар'яцелага Лазара збітага з тропу калі
У габрэйскім квартале гадзіннікі задам наперад пайшлі
Ты таксама жыццё асадзіўшы назад
Пабрыдзеш угару й на шляху ў Пражскі град
Песні чэшскіх прапойцаў адкрыеш наноў

Ты ў Марсэлі сярод кавуноў

Ты на Рэйне ў гатэлі дзе сніцца былое

Ты ад рымскага сонца схаваўся пад мушмулою

Ты ў Амстэрдаме з дзяўчынай чароўнай як сон твой
і брыдкай наяве
Што за студэнта з Лейдэна выскачыць неўзабаве
Вам здавалі каморку з лацінскаю назвай папраўдзе
*Cubicula locanda* ты жыў там тры дні
яшчэ столькі ж у Гаўдзе

Ты ў парыжскай турме за злачынствы чужыя
Крымінальную справу суддзя табе шые

Ты бадзяўся з валізкамі шчасця й бяды
Пагарэў на падманах прафукаў гады
Закаханы і ў дваццаць і ў трыццаць гадоў
Я заўжды быў вар'ятам цяпер пагатоў

Ты на рукі свае не зможаш зірнуць без рыданняў
Над сабой над каханнем
над страхам што лёс ваш спаганіў

Ты глядзіш у твар эмігрантам іх вочы гараць слязьмі
Яны моляцца Богу іх жонкі
немаўлят сваіх кормяць грудзьмі
Іх пахі як залы чакання хопіць на ўвесь Сэн-Лазар
Ідуць за святлом сваёй зоркі як калісь
Каспар Мельхіёр Бальтазар
Бо вераць што шчодрая плата
чакае іх недзе ў Ла-Плаце
А потым дарога дадому й да самага скону багацце

Нясуць пярыны чырвоныя як вы сваё сэрца
з надзеяй
Пярыны загінуць як вашы надзеі
ніхто з іх не разбагацее
Нехта ў нас застанецца надоўга засяліўшы галечай свае
Каморкі на Ру дэз Экуф і халупы на Ру дэ Раз’е
Штовечар іх бачу ўсё там жа
ўсё тыя ж самотнікі й пары
Бо ходзяць тым самым маршрутам
як шахматныя фігуры
Габрэйкі ўсе ў парыках замест галаўных убораў
Да ночы сядзяць у крамках між бедных сваіх тавараў

Ты ў бары ля прытона паўпрытомна
П’еш каву за два су і ўсім тут сумна

Ты ўночы з дзеўкамі ў вялікай рэстарацыі

Яны не злыя але як дажыць да раніцы
Чым менш прыгожыя тым больш каханкаў раніцца

Адна дачка паліцыянта з Джэрсі

Ёй рукі мазалі паспелі зжэрці

Яе жывот курс кройкі і шыцця

І рот мне крывіць смех і шкадаванне
калі цалую беднае дзіця

Світанак блізка ты брыдзеш бяссонны
На вуліцах звіняць малочніцаў бітоны

Сыходзіць ноч капрызнаю мулаткай
Дасведчанай малюткай атрутаю салодкай

Бо п’еш не разбаўляючы ніколі
Жыццё сваё нагбом як алкаголі

Вяртаешся дамоў калі ўжо развіднее
Да стодаў з Акіяніі да ідалаў з Гвінеі
І кожны з іх Ісус але дзіцячай эры
Што верачы ў багоў не дарасла да веры

Бывай бывай

Сонца гіне на гільяціне

*Пераклаў Андрэй Хадановіч*

## ***Мост Мірабо***
*(Le pont Mirabeau)*

Пад мостам Мірабо сплывае Сена
Й каханне наша
Памятай на змену
Тузе прыходзіць радасць несумненна

Прабіў гадзіннік ноч імкне
Дні праміна́юць паўз мяне

Рука ў руцэ стаім мы ў хваляванні
Пакуль пад мостам
Нашых рук дазвання
Мінулага знікае люстраванне

Прабіў гадзіннік ноч імкне
Дні праміна́юць паўз мяне

Любоў мінае хуткаю вадою
Жыццё ідзе
Маруднаю хадою
Адно надзеям дужацца з бядою

Прабіў гадзіннік ноч імкне
Дні праміна́юць паўз мяне

Гады і дні сыходзяць вокамгненна
Любові не вярнуць

Адно нязменна
Пад мостам Мірабо сплывае Сена

Прабіў гадзіннік ноч імкне
Дні прамінаюць паўз мяне

*Пераклаў Андрэй Хадановіч*

## ***Познацветы***

*(Les colchiques)*

Луг увосень атручаны хоць сакавіты
Труціць статкі патроху
Мурог ядавіты
Там цвіце нібы цені ля вашых вачэй
Познацвет толькі вочы красуюць ярчэй
Іх да красак ліловых падобныя промні
Гэтай восенню труцяць патроху жыццё мне

Выбягаюць са школы хлапцы-крыкуны
Пасяшаюць на луг пад гармонік губны
Каб ірваць познацветы з дзіцячым шаленствам
Што павек будуць вашых павек падабенствам
Трапяткіх як пялёсткі на золкім вятры

Пастуховая песня лунае ўгары
І брыдуць па красоўнай атруце чароды
Пакідаючы восеньскі луг назаўсёды

*Пераклаў Андрэй Хадановіч*

## *Чацвёртая раніцы*
*(4h)*

Цяпер чацвёртая раніцы
Прачынаюся апрануты
З кавалачкам мыла ў руцэ
Яго даслаў той хто дарагі мне
Я зараз памыюся
Я вылажу з акопа ў якім мы спім
Адчуваю сябе бадзёрым
І шчаслівым што змагу нарэшце памыцца
чаго ўжо тры дні не здаралася
Потым памыўшыся пачынаю галіцца
А тады як блакітнае неба чысты
да ночы зліваюся з далягладам
і вось асалода
Не казаць больш нічога
цяпер калі кожны мой рух
робіць той хто не бачны нікому
Бо калі я зашпільваю мундзір
усе адценні блакіту пераблытваюцца з небам
і я раблюся нябачным

*Пераклаў Зміцер Колас*

## *Вучоба*
*(Exercice)*

Брылі чатыры бамбардзіры
Да вёсачкі малой у тыл
Іх ногі рукі твар мундзіры
Спрэс пакрываў акопны пыл

Яны прыгадвалі былое
Глядзелі на шырокі дол
Не азіраліся на тое
Чым бухаў ззаду кожны ствол

Казаў пра ўчора хлопец кожны
Пра заўтра не хацеў казаць
Так аскетычна асцярожна
Вучыўся кожны паміраць

*Пераклаў Зміцер Колас*

## ***Ані***

*(Annie)*

Паміж мне невядомых гарадоў
На выгнутым тэхаскім узбярэжжы
Ёсць сад шыкоўны поўны руж а
Пасярод стаіць катэдж і
Сам ён быццам ружа

Калі праходжу паўз яго
Па ліпавых прысадах
То з гаспадыняй незнарок я сустракаюся паглядам
Гуляе ўсё адна дасюль

Ды вераю паненка – аміш
Ніякіх гузікаў бутонаў ружаў ружжаў куль
Я халасты пінжак не зашпіляю –
у нас адзін і той жа культ
Мы аднаверцы але ж... паненку не падманеш

*Пераклаў Уладзь Лянкевіч*

## ***Дом мёртвых***

*(La maison des morts)*

*Марысу Рэйналю*

На ўзбочыне могілак размясціўшыся
Дом мёртвых пільнаваў уваход туды
нібы кляштарная брама
За шыбамі гэтага дома
Манекены да лялек падобныя
З магазіна модаў
Замест каб застыгнуць ва ўсмешцы
Строілі міны перад аблччам вечнасці

На пятнаццаты ці на дваццаты свой дзень у Мюнхене
Я выпадкова ўпершыню трапіў
На гэтыя паўпустыя могілкі
І зубамі заскрыгатаў
Убачыўшы тых мяшчанаў
Што ўбраўшыся як найстаранней і гэтак
на людзі выйшаўшы
Чакалі хаўтураў

Аж раптам
Імгненна нібы маёй памяці ўспышка
Пачалі загарацца вочы
За шыбамі ў цэлях адна за адной
Неба засяліў апакаліпсіс
Поўны жыцця

І зямлю пляскатую да бясконцасці
Нібы за часоў да Галілея
Запоўнілі тысячы казачных постацяў нерухомых
Анёл дыяментавы шыбы паразбіваў
І мяне атачылі мёртвыя
Іх твары былі не з гэтага свету

Ды з іхніх аблiччаў адразу
Зніклі жалоба й смутак
Зямля і неба страцілі
Выгляд фантасмагорыі

Мёртвыя надта цешыліся
Тым як іх целы глядзяцца паміж святлом ды імі самімі
Яны жартавалі з уласных ценяў
Да іх прыглядаючыся
Нібы тое былі напраўду
Іх жыцці што прамінулі

Тады я палічыў іх
Іх было сорак дзевяць мужчынаў
Жанчын і дзяцей
Яны ўсе на вачах прыгажэлі
І глядзелі цяпер на мяне гэтак міла

І я нават расчуліўся
Па-сяброўску паставіўся да іх
Запрасіў іх на шпацыр супольны
За выгбамі таго дома

Мы пад рукі ўзяўшыся ўсе
Хай вам Госпад даруе правіны
З песняй воінскай пакрысе
Пакідалі могілкі чынна

Калі потым праз горад ішлі мы
Сустракаліся нам па дарозе старыя
Знаёмыя ды сваякі й яны далучаліся тут жа
Да нядаўна памерлых –
такія
Ўсе былі яны шчасныя
Іхнія душы
Перапаўнялі пачуцці п’янкія
Наймудрэйшым нават было цяжка ўцяміць
Дзе тут мёртвыя а дзе жывыя

Пасля ўжо за горадам
Грамада распалася
Да нас далучыліся два ўланы
Якіх віталі з энтузіязмам
Яны ж нарэзалі галінак з каліны
Ды з бузіны
Парабілі з іх жалейкі
І параздавалі дзецям

Потым падчас бяседы ў полі
Пары абняўшыся танчылі
Ім жаласна цытры йгралі

Мерцвякі й мярцвячкі таксама
Не развучыліся танчыць
І шмат было выпіта
Калі адшпунтоўвалася новая бочка
Пра гэта абвяшчаў адмысловы звон

Нябожчыца нейкая
Усеўшыся на лаўцы
Пад кісляцовым кустом
Дазволіла студэнту
Што ўкленчыў у яе ў нагах
Маліць сябе пра заручыны

*Буду вас чакаць*
*І дзесяць і дваццаць гадоў*
*Калі гэтак будзе трэба*
*Як скажаце так яно й будзе*

*Я таксама буду вас чакаць*
*Усё ваша жыццё*
Адказвала яму памерлая

Дзеці
З гэтага а можа й з таго свету
Спявалі ў карагодзе песні
З дзіўнаватымі лірычнымі словамі
Словы гэтыя былі без сумневу
Рэшткамі найстаражытнейшай
Паэзіі чалавецтва

На безыменны палец маладой памерлай
Студэнт надзеў пярсцёнак
*Вось сведчанне майго кахання*
*Нашых заручын*
*Ані час ані расстанне*
*Не дазволяць парушыць нашы прысягі*
*Аж пакуль не надыдзе дзень вяселля*
*Букецікі мірту*
*На нашых уборах і ў тваіх валасах*
*Цудоўная казань у храме*
*Доўгая гамонка пасля бяседы*
*І музыка*
*Музыка*

*Нашыя дзеці*
Кажа яму маладзіца
*Будуць найпрыгажэйшыя ўсё роўна*
*На жаль пашкоджаны быў пярсцёнак*
*Ды за дзяцей хоць бы з золата ім з'явіцца*
*Са срэбра смарагдаў брыльянтаў шыкоўных*
*Будуць яснейшыя яны ўсё роўна*
*За ўсе зоркі на небе цудоўным*
*За промні ад мілавіцы*
*А ад тваіх вачэй мой каханы*
*Будуць пахі яшчэ павяваць чароўней*
*На жаль пашкоджаны быў пярсцёнак*
*За чабор за бэз што раскрыў свае шаты*

*За куст ружы ў садзе ціхманым*
*За размарын ды лісточкі мяты*

Калі музыкі сышлі
Мы зноўку пайшлі на шпацыр

На беразе возера
Усе бавіліся
Пусканнем бліноў
Каменьчыкамі пляскатымі
Па лёгкім зыбе вады

Лодкі былі прывязаныя
Каля прычалу
Калі мы іх адвязалі
Уся грамада адплыла й памерлыя
Веславалі з імпэтам тым што і жывыя

На носе лодкі дзе я быў за стырнавога
Нейкі нябожчык размаўляў з дзяўчынай
У жоўтай сукенцы
У чорным гарсэце
З блакітнай тасьмою і ў шэрым капелюшы
Аздобленым адзіным ладным пёркам

*Люблю цябе*
Сказаў ён
*Як голуб галубку любіць*
*Як жамяра начная любіць святло*

*Занадта позна*
Жывая адказвала
*Забудзься на забароненую мілосць*
*Я замужам*
*Зірні вось пярсцёнак блішчыць*
*Я плачу мне лепш бы памерці*

Лодкі прыплылі
Да месца уланам вядомага
Дзе рэха адказвала з берагу
Несупынна сыпаліся дзіўнаватыя пытанні
А адказы рэха былі такія дасціпныя
Што ад смеху можна было парваць бакі
І памерлы звяртаўся да жывой

*Шчасце наша назаўжды*
*Знікнем мы ў начным улонні*
*Плачаш ты*
*Дрыжаць далоні*
*Мы не вернемся сюды*

Усе выйшлі на бераг пачалося вяртанне
Закаханыя цалаваліся
І па́ры з гарачымі вуснамі
Ішлі адстаючы ад іншых
Бліжэй далей адна ад адной
Мёртвыя выбралі жывых
А жывыя мёртвых

І ядловец раз-пораз на ўзбоччы
Здаваўся прывіднай зданню
Дзеці свістам паветра раздзіралі
Надзімаючы шчокі й дзьмухаючы
У калінавыя жалейкі
Ці ў дудкі з бузіны
А вайскоўцы тым часам гарлалі
Свае тырольскія песні
Падзяліўшыся на галасы
Як яно бывае ў горцаў

У горадзе
Грамада памалу радзела
Казалі адно аднаму
*Дабранач*
*Шчасліва*
*Да пабачэння*
Сёй-той заходзіў у піўную
Колькі чалавек развіталася з намі
Ля крамы дзе купляюць
                    сабакам мяса
Каб набыць чаго на вячэру

Праз хвілю я застаўся адзін з мерцвякамі
Што цяпер праставалі да могілак сваіх
Ці
Пад свае Выгбы

Там я іх пазнаў
Яны ляжалі нерухомыя
Убраныя па-святочнаму
Чакаючы за шыбамі пахавання

Ім нават і няўцям было
Што напраўду адбылося
Ды жывыя пра іх захавалі ўспамінак
То было шчасце неспадзяванае

З тае пары
Яны пачалі жыць жыццём шляхетным
Такім што кожны хто ўчора яшчэ
За роўных сабе ўважаў
Ці нават за крышку ніжэйшых
Цяпер пачаў шанаваць іх
За сілу характару й духу багацце
і здольнасці незвычайныя
Бо нішто нікога не ўзвысіць болей
За любоў да памерлага ці памерлай
Душа ачышчаецца гэтак
Што нават цераз лядовыя крыгі памяці
Можна злучыцца са сваімі згадкамі
Праз гэта ты мацуеш сябе ў жыцці
І ніхто табе больш не патрэбны.

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

## *Марызібіль*
*(Marizibill)*

Высокай вуліцаю Кёльна
Ішла ласкавая для ўсіх
Трымалася з усімі вольна
Пасля ж у жудасных піўных
Піла бяссільна і павольна

Яна кладзецца на салому
Бо так ёй кажа сутэнёр
Ён пахне часнаком вядома
Габрэй які сюды прыпёр
Яе з шанхайскага садому

Бываюць людзі рознай косці
Што ўласных не заслужаць мук
Яны звычайныя да млосці
Як грук дзвярэй іх сэрцаў гук
Недатушыў іх вочы хтосьці

*Пераклаў Андрэй Стэфановіч*

## *Верш прачытаны на шлюбе Андрэ Сальмона 13 ліпеня 1909*

*(Poème lu au mariage d'André Salmon)*

Сёння зранку пабачыўшы мора сцягоў
я сабе не сказаў
Што маўляў вось багатыя строі для бедных
Што ханжа-дэмакратыя хоча пакуты схаваць
Што шануючы вольнасць
цяпер пераймацьмем лістоту
О свабода раслінаў апошняя ў свеце свабода
Што палаюць дамы бо не вернуцца
тыя што іх пакідаюць
Што махаюць нам рукі якім
заўтра зноўку на нас працаваць
Ні аб тым што павесілі тых небаракаў
якія не ўмелі з жыцця карыстацца
Ні аб тым што нанова штурмуюць Бастылію
прагнучы свет абнавіць
Бо знаю адно на падмурку паэзіі будзе абноўлены ён
А Парыж у сцягах бо тут сёння
мой жэніцца сябар Андрэ Сальмон

Мы сустрэліся ў брыдкай піўніцы
Абодва былі маладзёны
Абодва палілі насілі старызну чакалі світанку

Любілі любілі адны й тыя самыя словы
чый сэнс было трэба змяніць
І трапілі трапілі ў зман ашуканыя дзеці
што яшчэ не ўмелі смяяцца
Дзве шклянкі на століку нам падаваліся
перадсмяротным паглядам Арфея
Упалі й разбіліся шклянкі
І мы навучыліся смеху
І мы рушылі ўдалеч шукальнікі страт
пілігрымы ягомасці
Згубы па вулках па местах чужыны
й сцяжынах свядомасці
Я сустрэў яго зноў над ракой дзе між белых лілей
Белай кветкай сплывае Афелія ў шатах юнацтва
Ён на флейце іграў тагасветную песню вар’яцтва
І з гурмою засмучаных Гамлетаў крочыў далей
Потым вечнай раскошаю ён суцяшаў
паміраючага мужыка
Зачараваны снегам які нагадаў яму
голае цела жанчыны
І я бачыў як робіць ён тое і гэтае
ў гонар тых колішніх слоў
Што змяняюць дзіцячыя твары і я наўздагон
Успамінам пяю наша Заўтра бо сёння
мой жэніцца сябар Андрэ Сальмон

Дык усцешымся але зусім не таму
што сяброўства было нам ракой жыццядайнай

Урадлівай вільготнай зямлёй
што дае нам надзею на хлеб
Ні таму што ізноў нашы шклянкі
вітаюць нас перадсмяротным паглядам Арфея
Ні таму што мы выраслі так што цяпер
шмат хто блытае нашыя вочы і зоры
Ні таму што лунаюць сцягі
ля вакон абываталяў нашых якія гатовыя
абараняць болей чым стогадовае
права на кожную дробязь жыцця
Ні таму што паэзія ўладу дала нам
над словамі што разбураюць
і зноў утвараюць наш свет
Ні таму што мы плакаць умеем і
смешнымі не падавацца
Ні таму што мы можам смяяцца што палім
і п’ем як калісьці
Будзьма радавацца бо ўладарка агню і паэтаў
Каралева Мілосць што сусвету дыктуе закон
І святлом прасякае прастору між зор і планетаў
Загадала і сёння
мой жэніцца сябар Андрэ Сальмон

*Пераклаў Андрэй Хадановіч*

## ***Бывай***

*(L'Adieu)*

Я зламаў гэты верас у полі
Наша восень памерла ў журбе
Нам ужо не сустрэцца ніколі
Водар часу верас у полі
Толькі знай я чакаю цябе

*Пераклаў Андрэй Хадановіч*

## ***Саламея***
*(Salomé)*

Каб Ян Святы яшчэ раз усміхнуўся пане
Лепш за анёлаў станчу танец агнявы
Чаму ж матуля у графініным убранні
Пры спадкаемцы трона ў гэткай скрусе Вы

Так моцна сэрца ад ягоных слоў дрыжала
Калі я сярод кмену танчыла ў садку
Яму лілеі я на стужцы вышывала
Што мела трапятацца на яго кійку

Каму ж на той кіёк што каля Іярдана
Квітнеў каму ж расшыю стужку я цяпер
О Ірадзе лілеі ўсе завялі рана
Калі яго выводзіў з дому твой жаўнер

Да дрэў раўнюткіх пойдзем Блазне грай вясёла
Не трэба плакаць Лепей за жазло
Вазьмі да танца да свайго вунь тую голаў
Матуля не чапай Астыла ўжо чало

Наперадзе ці ззаду пане з Вашай ласкі
Вы пойдзеце туды дзе выкапаем дол
Яму ўвесь кветкамі абсаджаны наўкол
І будзем там скакаць аж я згублю падвязкі

Кароль капшук тытунёвы
Інфанта ружанец новы
Поп малітоўнік службовы

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

## ***Вандроўныя акрабаты***
*(Saltimbanques)*

*Луі Дзюмюру*

З травы на жвір вандроўны цырк
Выходзіць быццам на шпацыр
Ён абмінае сад наўкола
Ідзе праз вёскі без касцёлаў

Гурма дзяцей – паперадзе й
Адзаду рэшта ў сне брыдзе
І дрэвы хіляцца ўрачыста
На ледзь прыкметны жэст артыстаў

У іх ёсць гіры ды шары
Яны хаваюцца ў шатры
Мядзведзь і малпа паабапал
Манеты ловяць спрытна ў лапы

*Пераклаў Уладзь Лянкевіч*

## ***Восень***

*(Autompe)*

Праходзіць скрозь туман вясковец клышаногі
За ім кульгае вол у восеньскі туман
Што хутар агарнуў пахілы ад знямогі

Вясковец ідучы спявае пра падман
Баладу пра мілосць пярсцёнак і сакрэты
Як сэрца хтось разбіў а пад канец закляцце

Эх восень восень ты ізноў забіла лета
Праходзяць скрозь туман дзве шэрыя пастаці

*Пераклаў Уладзь Лянкевіч*

## ***Разамунда***

*(Rosemonde)*

Шлю пацалункі ля будынку
Той што за брамай пекнай даме
За ёй прабегшы з дзве гадзінкі
Цудоўныя па Амстэрдаме
Шлю пальцамі іх безупынку

Бязлюдны над каналам пляц
І з лодак не відно нікому
Як пацалункі ўмею слаць
Ёй што ад трох гадзін свядома
Сваё жыццё хацеў аддаць

Яе я Разамундай гэтак
Заву й запомню назаўжды
Смак тых галандскіх вуснаў-кветак
І ў свет пайду шукаць сляды
*Rose du Monde* – Ружы Свету

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

## ***Рэйнская ноч***

*(Nuit rhénane)*

Дрыжыць нібы агонь віно і келіх поўны
Пяе вясляр і вы паслухайце той спеў
Як сем зялёных кос у зіхаценні поўні
Калісьці расплялі сем чарадзейных дзеў

Спявайце танчачы праносячыся міма
Каб болей не гучаў той весляровы спеў
Паклічце прыгажунь з застылымі вачыма
І каб на кожнай з іх вянок з касы бялеў

П'яніць п'янее Рэйн лаза ў яго глядзіцца
Начное золата на змену прыйдзе ёй
А песня ўсё хрыпіць а ў песні чараўніцы
Што лета заклялі зялёнай сумятнёй

Бы смехам зазвінеў мой келіх каб разбіцца

*Пераклала Ганна Янкута*

## ***Май***

*(Mai)*

О май о мілы май на рэйнскім чаўнаку
З вышынь гары глядзіць паненка на затоку
Вы мілая сама й чаўнок ужо далёка
Ды румзае вярба ўглядаецца ў раку

Вось золата садоў яны назад сплылі
Пялёсткі вішань што пападалі з галіны
Пазногці дарагой калісьці мне жанчыны
Абрыс яе павек пялёсткі на галлі

А берагам уздоўж павольнае ракі
Сабаку малпачку маўклівага мядзведзя
Цыган вядзе абоз фургон марудна едзе
Палеткам Рэйнавым спявае флейта недзе
Вітанні шлюць рацэ далёкія палкі

О май о мілы май здабытак твой руіны
Цнатлівыя плюшчы шыпшыны вінаград
Павеў пагойдвае той гаманлівы сад
Вярбу з ракі і вінаград з раўніны

*Пераклала Ганна Янкута*

## *Званы*

*(Cloches)*

Ты чуеш любы мой цыган
Як бомы б'юць нібы грымоты
Ўвяло каханне нас у зман
Хоць сустракаліся мы ўпотай

Але не быў надзейным схоў
Нас бачна з вышыні званіцаў
Паўсюль званы званы наўкол
Разносяць чуткі ім не спіцца

Назаўтра Цыпрыян Анры
Катрын Уршуля і Марыя
Ды пекар з жонкай іх сябры
І нават Бэль сястра па стрыю

Смяяцца будуць бы няўзнач –
Не збегчы ад вачэй зласлівых
Ты з'едзеш прэч Я – тут жа ў плач
І так памру мажліва

*Пераклаў Уладзь Лянкевіч*

## ***Ларэлея***
*(La Loreley)*

*Жану Сэву*

У Бахараху смерць мужчынаў напаткала
Прынесла згубу ім красы вядзьмарскай джала

Да біскупа вядуць шукаюць страшных кар
Ды ўбачыўшы яе пра ўсё забыў святар

О Ларэлея як гараць сапфірам вочы
Хто змог зачараваць прыўкрасны стан дзявочы

Стамілася я жыць на мне праклён стары
Хто ў вочы мне зірне той тоне ў іх віры

Бо полымем гараць а не сапфірам вочы
Хай знішчыць вогнішча вядзьмарскі стан дзявочы

Гару ў агні вачэй і не пазбыцца пут
О Ларэлея хай хтось іншы правіць суд

Які жахлівы жарт Малітвы ўзносьце Панне
Наблізьце смерць маю наблізьце ратаванне

Каханы з'ехаў след ягоны растае
Наблізьце смерць хутчэй няма душы мае

А сэрца ліхадзей і лепей мне памерці
Зірнуць бы на сябе і ўбачыць прывід смерці

А сэрца ліхадзей з тых дзён як з’ехаў ён
А сэрца вораг мой пякучы боль здавён

Трох рыцараў тады трох вояў для апекі
Адправіў біскуп з той чые трымцяць павекі

Вар’ятка ў манастыр цябе хай адвядуць
Свой новы строй надзень пакорнай мнішкай будзь

Ідуць учатырох і плача Ларэлея
І ад яе вачэй наўкола дзень святлее

О дайце мне ўзысці на строму над ракой
На замак паглядзець махнуць яму рукой

Пасля ў раку зірнуць а там без лішніх словаў
Я ў манастыр сыду да дзеваў і да ўдоваў

А ў валасах вятры гуляюць з пекнатой
І рыцары крычаць О Ларэлея стой

Вунь лодку Рэйн нясе сягнуць яе здалею
Каханы ў ёй плыве ён кліча Ларэлею

Каханы зноў са мной мне больш не ўсё адно
І кінуўшыся ў Рэйн яна ідзе на дно

На Ларэлею ёй глядзець у люстры плёсаў
На Рэйн яе вачэй і сонца светлых косаў

*Пераклаў Андрэй Стэфановіч*

## ***Дама***
*(La dame)*

Тук тук Вось зачыніў ён дзверы
Лілеі саду пасохлі ў зацішку
Ішла ты з кім Хто той памерлы

Ў яго пастукаешся дзверы
І хуценька бяжы бяжы
Бяжы маленькая мышка

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

## *Хворая восень*

*(Automne malade)*

Мая любая хворая восень памрэ
Калі вецер задзьме на дварэ
Калі снег упадзе на сады
Назаўжды

Бедная восень
Памры ў беліні і раскошы
Спелых пладоў і заснежаных ружаў
Высока ў нябёсах
Ястрабы кружаць
Зялёнавалосых русалак чакаюць з’яўлення
Наіўных малютак ніколі нікім не каханых

Трубяць алені
Удалечыні на палянах

Як мне даспадобы о восень усе твае спевы
Плады несабраныя вецер зрывае цішком
І плачуць няўцешныя дрэвы
Губляючы слёзы лісток за лістком

Лісцё
Пад нагамі канае
Цягнік
Разгон пачынае
Жыццё
Прамінае

*Пераклаў Андрэй Хадановіч*

## *Паляўнічы рог*
*(Cors de chasse)*

Наш выпадак цяжкі й трагічны
Як маска дэспата дальбог
Ніякі эпас гераічны
Або бязглузды дыялог
Такой любові не датычны

Дэ Квінсі трызнячы ў снох
Глынуўшы опіуму з верхам
Шукае Эн уздоўж дарог
Усё бяжыць мінае спехам
Я абярнуся бо няўзмог

Але ўспаміны – толькі рэха
Што выдзьмуў паляўнічы рог

*Пераклаў Уладзь Лянкевіч*

## ***Вокны***
*(Les fenêtres)*

Ад чырвані да зелені памірае ўся жаўцізна
Калі папугаі пяюць у родных лясах
Падбітыя птушкі пігі
Трэба напісаць пра птаха
у якога толькі адно крыло
Прадыктуем гэта праз тэлефон
Велізарная рана
Яна выціскае з сябе вочы
Вось дзяўчына ладная
сярод маладых жанчын-турынак
У белы гальштук смаркаецца бедны маладзён
Ты падымаеш фіранку
І цяпер вось адчыняецца акно
Павукі калі рукі ткуць святло
Гожасць бледнасць
неспасцігальная фіялетавасць
Дарэмна будзем спрабаваць
сысці ў адпачынак
Пачнем апоўначы
Калі ёсць час і ёсць свабода
Малюскі-літарыны
разнастайныя Сонцы й Вожык
марскі заходу

Пара старых жоўтых ботаў пад акном
Вежы
Вежы гэта вуліцы
Студні
Студні гэта плашчы
Студні
Дуплаватыя дрэвы што даюць прытулак
бяздомным цёмным мулаткам
Казлы спяваюць смутныя песні
Уцякачкам-козам
Гусь уа-ўа клякоча на поўначы
Дзе лаўцы пацучанят
Скрабуць скуркі пушных звяркоў
Дыямент што іскрыцца
Ванкувер
Дзе белы цягнік са снегу і начных ліхтароў
уцякае ад зімы
О Парыж
Ад чырвані да зелені памірае ўся жаўцізна
Парыж Ванкувер Іер Мэнтэнон
Нью-Ёрк і Антылы
Акно расчыняецца як апельсін
Прыгожы плод святла

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

## *Панядзелак Вуліца Крысціны*
*(Lundi rue Christine)*

І маці пакаёўкі і яна сама кожнага прапусцяць
Калі ты мужчына ты пойдзеш са мною сёння ўвечары
Аднаго будзе досыць каб пільнаваць пры браме
Калі другі да мяне падымецца

Тры газавыя ліхтары
У гаспадыні сухоты
Як закончыш мы згуляем партыю ў косці
Дырыжор аркестру з хворым горлам
Прыедзеш у Туніс навучу паліць тытунь
уперамешку з гашышам

Быццам яно ўсё так

Горка сподачкаў кветкі каляндар
Бім бам бім
Я вінен амаль 300 франкаў гаспадыні дому
Зарэзацца мне лягчэй чым іх ёй аддаць

Мой цягнік а 20-й 27
Шэсць люстэркаў што глядзяцца адно ў адно
Мяркую гэта нас яшчэ больш з тропу саб'е
Шаноўны спадар
Вы проста лайно ды нікчэмнасць
А ў гэтай дамы нос нібы ў салітэра

Луіза забыла футра
А ў мяне яго няма
Я й не мерзну
Датчанін паліць цыгарку расклад язды вывучаючы
Праз піўнуху праходзіць чорны кот

Тыя блінцы былі проста шыкоўныя
Вада працякае з крану
Сукня чорная нібы яе пазногці
Гэта ж абсалютна немажліва
Паглядзіце спадару
Вось з малахіту пярсцёнак
Падлога засыпаная пілавіннем
Ну вядома ж
Рудая кельнерка ўцякла з кнігаром

Адзін рэпарцёр якога я зрэшты трохі ведаю
Жак паслухай тое што я кажу зусім сур’ёзна

Мараходная кампанія са змяшаным капіталам
Ён мне кажа
Мсьё ці не жадалі б вы паглядзець
мае афорты й палотны
У мяне пакаёўка толькі адна

Пасля сняданку ў кавярні «Люксембург»

Аднаго разу ён там мяне з таўстуном знаёміць
Які мне кажа

Паслухай як жа цудоўна
У Смірне Неапалі Тунісе
Ды Богам малю вас скажыце
Дзе гэта
Як я апошні раз быў у Кітаі
Таму гадоў восем ці дзевяць
Годнасць часта залежыць ад часу
Што паказваюць стрэлкі
А козыр у мяне

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

## *Мроя з аблокаў*
*(Un fantôme de nuées)*

За дзень да чатырнаццатага ліпеня
гадзіны ў чатыры па абедзе
Я выйшаў на вуліцу ў пошуках вандроўных цыркачоў

Гэтыя мастакі ў вольным паветры
Становяцца ў Парыжы рэдкасцю
У маладосці іх было намнога болей чым цяпер

Амаль усе падаліся ў правінцыю
Я павярнуў на бульвар Сэн-Жэрмэн
І на маленькім пляцы між царквой
Сэн-Жэрмэн дэ Прэ і помнікам Дантону
Я напаткаў вандроўных акрабатаў

Іх абступаў натоўп нямы і сцішаны ў чаканні
Я знайшоў сабе месца ў коле, каб усё было добра бачна
Неймаверны цяжар
Бельгійскія гарады ўзняты  на выцягнутых руках
                    рускім рабочым з Лангві
Два чорныя ядры злучае не штанга
                    а спыненая кімсьці рака
Пальцы круцяць цыгарку
                    як жыццё салодкую й гаркавую

Дол суцэльна бруднымі дыванамі заслаНЫ
Кілімамі са складкамі і згінамі якіх не разгладзіць
Кілімамі спрэс колеру пыльнага
На якія пару ці то жоўтых ці то зялёных плямін
прысталі
Як мелодыя што цябе пераследуе

А вось фігура персанаж хударлявы й панурЫ
Попел ягоных дзядоў праступіў на сівой барадзе
Уся яго спадчыннасць так і просіцца вонкі з-пад скуры
Здавалася ён мроіць пра нашчадкаў
Круцячы машынальна катрынку
Якая чароўна плача голасам аднастайным
Булькаценне фальшывыя гукі глухія стагнанні

І цыркачы не рухаліся з месца
Самы стары з іх быў у трыко
такога колеру ружова-ліловага
Які праступае на шчоках у некаторых
яшчэ маладых і свежых але
Блізкіх да смерці дзяўчат

Гэты ружовы тоіцца перадусім
у зморшчынках вакол рота
Або каля носа
Гэты ружовы поўны падступства

Мужчына з агідным адценнем
Уласных лёгкіх на спіне

Рукі рукі вартавалі ўсё вакол

Другі акрабат
Адзеты ва ўласны цень і толькі
Я глядзеў на яго амаль доўга
Ды ўхапіць ані рысы не здолеў
Гэта чалавек без галавы

Апошні выглядаў як махляр
Паганец з новага свету мілы і мярзотны
Увогуле манерай апранацца і сваім уборам
У гольфах і шырокіх панталонах ён нагадваў сутэнёра

Замоўкла музыка і пачаліся перамовы з публікай
Якая на дыван накідала два з паловай франкі драбязой
Ніяк не тры як вызначыў стары аплату за штукарствы
Але як стала ясна што ніхто нічога болей не дадасць
Пастанавілі пачаць прадстаўленне

З-пад катрынкі аднекуль з’явіўся маленькі цыркач
У сухотна-ружовым убранні
З футрам на запясцях і костачках
Кароткія выкрыкі
Прывітальна разведзены рукі
Раскрытыя кісці

Нага адстаўлена для рэверансу
Ён пакланіўся на чатыры бакі ветру
А калі апынуўся на шары
Танклявае цела зрабілася музыкай крохкай
і ейныя чары

Абыякавасць кожнага выцеснілі
Мізэрны дух пазбаўлены зямнога
Падумалі людзі
І гэтая музыка сферы
Заглушыла механічныя гукі катрынкі
Што чаканіў па ўзоры мужчына
з тварам продкамі пакрытым

Малы акрабат выкруціў сальта
Гэтак суладна
Што супыніўся катрынкавы ляскат
А катрыншчык аблічча затуліў далоньмі
І пальцы як быццам нашчадкі з улоння
Зародкамі вылезлі з-пад яго барады
Яшчэ адзін выкрык язычніка
Спеў дрэў як першабыт
Знікла дзіця

Цягалі штукары жалезныя гіры й шары,
Кідалі гантэлі ў паветра як хацелі

Але кожны глядач глядзеў у сябе шукаў чароўнае дзіцё

Стагоддзе хмарнае стагоддзе

*Пераклаў Уладзь Лянкевіч*

## *Праз Еўропу*
*(À travers l'Europe)*

*М. Ш[агалу]*

Ратсож
Твой твар пунсовы твой біплан
што ператвараецца ў гідраплан
Твой круглы дом куды плыве вэнджаны селядзец
Мне да павекаў патрэбны ключ
На шчасце мы бачылі сп. Панадо
І з гэтага боку спакойныя мы
Што ты там бачыш стары мсьё Д...
90 альбо 324 чалавекі ў паветры цяля што глядзіць
праз пуза маці сваёй

Я доўга на гасцінцах шукаў
Гэтулькі пры дарогах заплюшчаных вачэй
Ад ветру плача лаза
Адчыні адчыні адчыні адчыні
Зірні ну зірні нарэшце туды
У місе ногі мые стары
*Una volta ho inteso dire Chè vuoi*
І ваша маленства згадваючы
я плакаць пачаў

А ты мне паказваеш жудасны фіялет

Малы той відок на якім воз нагадаў мне той дзень
Дзеньператканы бэзавымі жоўтымі сінімі
зялёнымі й чырвонымі лапікамі
Калі я выбіраўся за горад з ладным комінам
і сучкаю на павадку
Няма ўжо ў цябе няма свістулькі малой
Комін воддаль паліць цыгаркі расейскія
Сучка на лілеі заўзята брэша гаў-гаў
Лампадцы начной ужо капец
На сукенку пялёсткамі квет апаў
Ля сандаляў два залатыя абручы
На сонцы зіхцяць
Але валасы твае гэта вазок праз усю Еўропу
Убраную шматколернымі агеньчыкамі

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

## *Дождж*
*(Il pleut)*

Дождж ліе галасамі жанчын як быццам яны
памерлі і ў памяці таксама

І вамі дождж ліе чароўныя спатканні майго жыцця.
пырскі і кроплі!

А хмары ўстаўшы на дыбкі на ўвесь сусвет іржуць
і гук трапляе ў гарадское вуха

Паслухай імжыць а можа так шкадоба і пагарда
выплакваюць старую песню

Паслухай ірвуцца повязі што паміж небам і зямлёй
цябе трымаюць

*Пераклаў Уладзь Лянкевіч*

## *Маленькае аўто*
*(La petite auto)*

31 жніўня 1914 года
Я выехаў з Давіля позна ўвечар
На маленькім аўто Рувэра

Разам з кіроўцам нас было трох

Мы развіталіся з цэлай эпохай
Злосныя волаты ўставалі над Еўропай
Арлы чакаючы сонца пакідалі гнёзды
Ненажэрныя рыбіны выплывалі з віроў
Народы сыходзіліся каб спазнаць адзін аднаго дарэшты
Трупы трымцелі ад страху ў змрочных прытулках

Сабакі звягалі ў той бок дзе праходзілі межы
Я адʼязджаў узяўшы з сабой усе войскі якія змагаліся
Я адчуваў у сабе як яны звіваліся заняўшы мясцовасць
З лясамі і шчаслівымі бельгійскімі вёскамі
Франкаршан Лё Руж і Пухон
Край з-за якога заўсёды прыходзіць навала
Ува мне артэрыі чыгункі дзе тыя хто ехалі паміраць
Яшчэ раз віталі жыццё сакавітае
Глыбокія акіяны дзе варушыліся пачвары
У старых караблях патанулых
Неймаверная вышыня на якой чалавек бʼецца

Вышэй чым сягае арол
Чалавек там б’ецца з чалавекам
І раптоўна падае долу нібыта знічка

Я адчуваў у сабе як новыя рухавыя істоты
Будуюць і ўладкоўваць новы сусвет
Нечувана багаты й празмернага росту гандляр
Раскладаў незвычайны тавар на вітрыне
І высачэзныя пастухі вялі
Агромністыя немыя статкі, што паскубвалі словы
І брахалі на іх усе прыдарожныя сабакі

Я ніколі не забуду гэтага начнога падарожжа калі ніхто не сказаў ані слова

О
туж
лівы
ад’езд
калі паміралі
нашыя 3 фары

о
ноч
кволая
перад
вайной

о
вёс
кі дзе на скорапрацавалі

КАВАЛІ ЯКІХ ПАКЛІКАЛІ

МІЖ ДВАНАЦЦАЦЦЮ І ГАДЗІНАЙ НОЧЫ

у
б о к
Л І З Ь Ё
б л а к і т
н а г
а

альбо

в
э р с
а л ю з а
л а т о
г а

і тройчы мы спыняліся каб замяніць прабітую шыну

І калі пасля абеду
Праз Фантэнбло
Мы прыехалі ў Парыж

Акурат у той самы момант
як расклейвалі загад аб мабілізацыі
Мы зразумелі мой сябар і я
Што маленькае аўто прывезла нас у
Новую эпоху
І няхай мы ўдвох ужо дарослыя людзі
Мы аднак толькі што нарадзіліся

*Пераклаў Уладзь Лянкевіч*

## *Цень*
*(Ombre)*

Вось вы ізноў побач са мной
Успаміны пра таварышаў памерлых на вайне
Аліва часу
Успаміны якія складаюць адно
Як сотня кавалачкаў скуры складае плашч
Як гэтыя тысячы ранаў складаюць газетны артыкул –
Цёмнае і недатыкальнае аблічча што прыняло
Зменлівую форму майго ценю
Індзеец насцярожаны цэлую вечнасць
Цень вы поўзаеце побач са мной
Вы больш мяне не чуеце
Вы больш не разумееце чароўных вершаў што я пяю
Але я вас чую і бачу таксама
Лёсы
Цень шматаблічны барані вас сонца
Вас які любіць мяне досыць моцна каб не пакінуць
І які танчыць на сонцы не падымаючы пылу
Цень атрамант сонца
Почырк майго небасхілу
Збройня поўная жалю
Прыніжаецца Бог

*Пераклаў Уладзь Лянкевіч*

## *Мішэнь*

*(Visée)*

*Спадарыні Рэнэ Берцье*

Коні колеру вішняў мяжа Зеландыі
Залатыя кулямёты выкрэктваюць легенды
Люблю цябе воля ты ў сутарэннях не спіш
Арфа срэбраструнная о дождж о мая музыка
Нябачны вораг срэбная рана на сонцы
І таемная прышласць якую праясняе снарад
Слухай як дробная рыбінка Слова плыве
Гарады па чарзе робяцца ключамі
Маска блакітная якую на неба кладзе Пан Бог
Ціхая вайна аскеза самотнасць метафізічная
Дзіця з рукамі абцятымі сярод ружовых харугваў

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

## ***Бівачныя агні***

*(Les feux du bivouac)*

Заблукалі ў танцы агні
Высвятляючы сноў будову
І віджэжа плыве ў цяні
Дрэваў бачная напалову

Вечны жаль скрывіўся ў ашчэр
І крываніць нібы клубніцы
Попел толькі попел цяпер
Ні ўспамінаў ні таямніцы

*Пераклала Кацярына Мацієўская*

## ***Фатаграфія***
*(Photographie)*

Твая ўсмешка мяне вабіць
Так як вабіла б кветка
Фатаграфія ты збуцвелы грыб
З лесу
Прыгажосць яго
Белыя краі
Гэта поўні святло
У сцішаным садзе тым
Поўным быстрых водаў і шалёных садоўнікаў
Фатаграфія ты ад пажару дым
Прыгажосць яго
І гэта ў табе
Фатаграфія
Гукі слабыя
Гэта з іх чуцён
Рэчытатыў
Фатаграфія ты цень
Ад Сонца
Прыгажосць яго

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

## *Ракета*
*(Fusée)*

Локан чорных валасоў на шыі тваёй гэта мой скарб
Думкі лучацца й крыжуюцца нашы з табой
Грудкі твае адзіныя набоі што я люблю
Успамін пра цябе сігнальны агонь
каб высачыць цэль уначы

Глянуўшы на азадак майго каня
я адразу сцёгны твае згадаў

Вось пехацінцы што чытаючы газеты
адыходзяць назад

Санітарны сабака вяртаецца
несучы нечую піпку ў зубах

Лясная сава з рудаватымі крыламі
бляклымі вочкамі
галавой кацяняці й лапкамі як у ката́

Па імшары бяжыць зялёная мыш

На прывале ў кацялку рыс прыгарэў
Гэта значыць што сачыць трэба шмат за чым

Мегафон крычыць
Агонь Яшчэ агонь

Прадоўжыць агонь батарэяў вашых любоў

Цымбалы разварушы батарэяў цяжкіх
У якія б'юць у гонар Бога Вайны
Херувімы ад кахання шалёныя зусім

На ўзгорку дрэва з абдзертай карой

Шум у даліне дзе караскаюцца ўгару цягачы

О стары свеце XIX стагоддзя дзе шмат высокіх комінаў
прывабных і чысцюткіх

Мужнасць часу у якім мы жывем

О гарматаў ствалы

Снарады 75-га калібру ірвуцца адзін за адным
Званіце пабожна ў званы

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

## *Смутак зоркі*
*(Tristesse d’une étoile)*

Мне выйшла з чэрапа магутная Афіна
Крывавай зоркаю маю кранууўшы скронь
Пад небам галавы палае несупынна
Багіняю вайны раскладзены агонь

Але стакроць мацней ад зоркавае раны
Што літасцівы боль прыклаў да галавы
Таемнае тугі нябачныя тараны
Руйнуюць ранячы мой розум ледзь жывы

І я цягну далей пякучую хімеру
Як светлячок нясе агеньчык свой далей
Як сэрца Францыі баліць яе жаўнеру
Як спее прыгажосць у завязях лілей

*Пераклаў Андрэй Хадановіч*

## *Апошні раздзел*

*(Un dernier chapitre)*

Увесь народ рушыў на галоўную плошчу
Прыйшлі белыя людзі мурыны жоўтыя
і колькі чырвоных
Прыйшлі рабочыя з заводаў высокія коміны якіх
больш не дымілі бо ішла забастоўка
Прыйшлі муляры ў адзежы перапэцканай тынкам
Прыйшлі чаляднікі рэзнікаў з рукамі па локці ў крыві
Прыйшлі вучні пекараў бледныя ад мукі
што іх паабсыпала
І прадаўцы з розных крамаў
Прыйшлі суворыя кабеты з дзецьмі
адных яны трымалі на руках а іншыя
чапляліся за іхныя спадніцы
Прыйшлі няшчасныя жанчыны
што былі нафарбаваныя дзёрзка
і штосьці паказвалі на мігах па-дзівацку
Прыйшлі скалечаныя сляпыя
бязногія аднарукія кульгавыя
Прыйшлі таксама святары і некалькі
вытанчана апранутых мужчын
І па-за плошчаю горад падаваўся мёртвым
і нават не ўздрыгваў

*Пераклаў Уладзь Лянкевіч*

## *Самагубца*

*(Le suicidé)*

Тры лілеі лілеі цвітуць угары
Тры лілеі з магілы што крыжа не мае
У іх снах не раса а залева сляпая
Прыгажэй не здабудуць жазла ўладары

З мае раны лілея расце і палае
Бы крывёй з надыходам світальнай пары
Тры лілеі лілеі цвітуць угары
Тры лілеі з магілы што крыжа не мае

Маё сэрца ірве з чарвякамі другая
А апошняя з рота майго вырастае
Іх з магілы на ўзбоччы зрываюць вятры
І пракляцце самоты нясуць усе тры

Тры лілеі лілеі цвітуць угары

*Пераклала Кацярына Мацієўская*

## *У Ганніным садзе*

*(Dans le jardin d'Anna)*

Відавочна калі б мы жылі
У тысяча семсот шасцідзясятым годзе
А якраз гэтую дату
Расшыфравалі Вы Ганна на каменнай лаўцы

І калі б я на няшчасце быў немцам
Ды на шчасце быў бы побач з Вамі
Мы размаўлялі б намёкамі пра каханне
Амаль заўжды па-французску
І павісшы ўтрапёна на маёй руцэ
Вы слухалі б мой аповед пра Піфагора
Думаючы ўвесь час пра каву
Якую мы меліся піць
Праз паўгадзіны

А восень была б да гэтай восені падобнай
Увянчанай віналозамі й барбарысам

І раз-пораз я рабіў бы раптоўныя
Рэзкія паклоны
Тоўстым і млявым шляхетным кабетам

Я папіваў бы павольна ў самоце поўнай
Падчас вечароў даўжэзных
Густы такай альбо мальвазію

Я надзяваў бы свой строй гішпанскі
Каб чакаць на дарозе прыезду
У старой карэце
Маёй бабці якая не хоча разумець па-нямецку

Я пісаў бы вершы поўныя міфалагічных рэчаў
Пра Вашы грудзі пра вясковы побыт
І пра кабет
З наваколля

Я ламаў бы свой кій часцяком
На спіне сяго-таго селяніна

З ахвотаю слухаў бы музыку
Заядаючы яе кумпяком

Я кляўся б па-нямецку як я кляўся б
Калі б заспеты быў Вамі
Цалуючы моцна ў вусны
Гэтую пакаёўку рудую

У лесе поўным чарніц
Вы мне прабачылі б гэта

Я мармытаў бы нешта сабе пад нос
І мы доўга слухалі б разам шолахі сутоння

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

## ***Манпарнас***

*(Montparnasse)*

О брама гатэля пры ёй два зялёныя дрэўцы
Такія што аніколі
Не заквітнеюць

Дзе плады мае Дзе маё карэнне
О брама гатэля перад табой анёлак
Які раздае з рэкламай буклеты

Ніколі цнотаў не баранілі аж гэтак
Дайце мне назаўсёды пакой
Што даецца на тыдзень
Анёле барадаты ты насамрэч
Лірычны паэта з Нямеччыны
Ты прагнеш пазнаць Парыж
Ты ведаеш лініі па якіх хадзіць
Няможна на бруку што яны дзеляць
І табе карціць
На шпацыр у Гарш пайсці ў нядзелю

Цяжкавата Валоссе даўгое спадае з плячэй
Ты занадта бландын о паэце й крыху дуралей
Два балоны нагадвае выгляд тваіх вачэй
Што ў чысцюткім паветры ўзышлі
І прыгоду сабе знайшлі

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

## *Сігнальная ракета*

*(Fusée-signal)*

Вёскі шугалі полымем у глыбіні начы
Фермерка вядзе аўто дарогаю на Гальвестон

Хто стрэліў гэтай сігнальнай ракетай

Тым не менш ты зробіш слушна
пакінуўшы дзверы разнасцежанымі
а потым вецер што пілуе нібы дрывасек
нагоніць на цябе страх перад зданямі
Твая мова
чырвоная рыба ў бляшанцы
твайго голасу
Але гэты жаль
не больш як медсястра бялейшая ад зімы
асляпляльная ў хвілі калі на даляглядзе меншае
полчышча дзён блакітнейшых за ўзгоркі
далёкія і мякчэйшыя за падушкі сядзенняў аўто

*Пераклаў Лявон Баршчэўскі*

# ЗМЕСТ

**Апалінэр**, Гіём
А76 Выбраная паэзія / Гіём Апалінэр ; пер. з франц. — Мінск : Выдавец Зміцер Колас, 2016. — 88 с. (Паэты планеты).
ISBN 978-985-7164-30-1.

Гіём Апалінэр (1880–1918, сапраўднае імя – Вільгельм Альберт Уладзімір Апалінарый Кастравіцкі) – французскі паэт з беларуска-польскімі каранямі, адна з найбольш уплывовых постацяў еўрапейскага літаратурнага авангарду ў пачатку ХХ стагоддзя. Творы ў гэтым зборніку публікуюцца ў новых перакладах Андрэя Хадановіча, Лявона Баршчэўскага, Уладзя Лянкевіча, Кацярыны Маціеўскай, Андрэя Стэфановіча, Ганны Янкуты і Зміцера Коласа.
Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**УДК 821.133.1-1**
**ББК 84(4Фра)-5**